# Веснік НДА
Веснік NGO
№11 (26)
лістапад 2000





БЮЛЕТЭНЬ ВІЦЕБСКАГА АДДЗЯЛЕННЯ ГА «ФОНД ІМЯ ЛЬВА САПЕГІ»

# Прайшлі выбары...

***Сваю адзнаку выбарам у "Палатку №2" і арганізаванаму ў Віцебскай вобласці наглядданню за гэтымі выбарамі дае намеснік старшыні Віцебскай абласной Рады па назіранню за выбарамі Іосіф Адамавіч Навумчык.***

Трэба адзначыць, што на Віцебшчыне вызначэнне тактыкі выбарчай працы апазіцыі пачалося ў канцы лютага. Была вызначана праграма дзейнасці апазіцыйных уладзе дэмакратычных партый і грамадскіх арганізацый. Да насельніцтва вобласці даводзіліся тыя ўмовы, на якіх апазіцыя ў поўнай меры будзе ўдзельнічаць у выбарах парламента.

Адначасова апазіцыя вырашыла скарыстаць падрыхтоўку да выбараў у барацьбе з існуючым аўтарытарным рэжымам, у інфармаванні людзей аб мэтах і задачах дзейнасці апазіцыі ў сферах умацавання дзяржаўнасці, незалежнасці Беларусі, дэмакратызацыі грамадскага жыцця. Сярод насельніцтва вобласці распаўсюджаны вялікі тыраж дайджэста "Свабоднае слова", розных улётак, бюлетэняў і іншых агітацыйных матэрыялаў.

У сакавіку была сфармавана каардынацыйная рада грамадскіх аб'яднанняў вобласці па назіранню за выбарамі. Адпаведна каардынацыйныя рады былі створаны ў раёнах Віцебска, у Оршы, Наваполацку, Полацку, у 17 сельскіх раёнах.

Гарадскія і раённыя каардынацыйныя рады правялі падрыхтоўку назіральнікаў. Было праведзена 23 гарадскіх, міжраённых і раённых семінарах, дзе разглядаліся актуальныя пытанні дзейнасці апазіцыйных сіл у час выбарчай кампаніі, прайшлі навучанне больш за 500 назіральнікаў. У склад участковых выбарчых камісій удалося ўключыць цэлы шэраг прадстаўнікоў апазіцыі.

Аднак, думаю, што рашэнне Кангрэса дэмакратычных сіл аб забароне вылучацца ў выбарчыя каміссіі сябрам адпаведных партый і грамадскіх арганізацый было паспешным і памылковым. Яно адмоўна адбілася на арганізацыі сістэмы кантроля за выбарамі і іх байкоце.

Але, нягледзячы на ўсе цяжкасці і перашкоды ў падборы і падрыхтоўцы назіральнікаў, у час галасавання па лініі абласной каардынацыйнай рады наглядаліся 502 участкі з 1029, у тым ліку 328 у дні папярэдняга галасавання. А ўсяго ў нагляданні ўдзельнічалі 950 чалавек. Назіраннем былі ахоплены больш 90% выбарчых участкаў у Першамайскім раёне Віцебска (каардынатар Фаміна А.А.), г. Наваполацку (каардынатар Главацкіх В.Б.), г. Оршы і Аршанскім раёне (каардынатар Нагорны Ю.А.). Актыўна вялося назіранне за выбарамі ў Полацку, Бешанковічскім, Браслаўскім, Верхнядзвінскім, Гарадоцкім, Лёзненскім, Пастаўскім, Талачынскім, Шаркоўшчынскім раёнах.

Вынікі выбараў вядомыя. Яны апублікаваныя дзяржаўнымі сродкамі масавай інфармацыі. А вось аб шматлікіх парушэннях законнасці ў час выбарчай кампаніі паведамілі толькі апазіцыйныя газеты.

Пералік парушэнняў выбарчага кодэкса ў Віцебскай вобласці зойме не адну газетную старонку. Акты аб канкрэтных парушэннях у час выбараў штодзённа перадаваліся з гарадоў і раёнаў вобласці у Кансультатыўна-наглядальную групу АБСЕ, у Цэнтральную каардынацыйную раду грамадскіх арганізацый па назіранню. Інфармацыю з гарадоў і раёнаў вобласці скарыстала і парламенцкая "тройка", прадстаўленая Еўрапейскім парламентам, парламенцкімі асамблеямі АБСЕ і Савета Еўропы у сваёй заяве аб палітычнай сітуацыі на Беларусі ў святле парламенцкіх выбараў, адбыўшыхся 15 кастрычніка.

Якія высновы можна зрабіць па выніках выбарчай кампаніі?

Бясспрэчна, мясцовая ўлада, парушаючы нормы выбарчага кодэкса, выконваючы загады з Менску, пад страхам быць звольненай, пайшла на ўсё, каб правесці выбары і "выбраць" сваіх кандыдатаў.

Дасягнуць гэтых вынікаў ва ўмовах пастаяннага збяднення народа, у атмасферы пустых абяцанкаў і абману з боку ўлады, апатыі значнай часткі людзей можна было там, дзе адсутнічаў кантроль грамадскасці за ходам выбараў, альбо ён быў няпоўным, недастатковым.

Аналіз дакумента ў выбарчых камісій у гарадах паказвае, што там, дзе ў дні галасавання ўлада не магла задзейнічаць свой "адміністрацыйны рэсурс", дзе не было інтэрнатаў (рабочых ці студэнцкіх), удзел грамадзян у галасаванні склаў 28-35%.

Памылковай была пазіцыя тых дэмакратычных сіл і арганізацый, якія адказаліся ад удзелу ў кантролі за выбарамі, матывуючы гэта непрызнаннем Палаты прадстаўнікоў. Поўны і прынцыповы кантроль за выбарамі ў гарадах і раёнах не даў бы магчымасці ўладзе выбраць нават палову дэпутатаў палаты.

Апазіцыйныя дэмакратычныя сілы аб'ектыўна маюць сёння магчымасці да грунтоўнай падрыхтоўкі выбараў прэзідэнта і перамогай на іх. Для гэтага трэба адкінуць свае амбіцыі і крыўды, аб'яднацца для дасягнення галоўнай мэты – вывесці Беларусь на шлях дэмакратычнага развіцця.

# Пікет у Віцебску







Група актывістаў БНФ і АГП правялі ў суботу 28 кастрычніка ў Віцебску несанкцыянаваны пікет пад назвай: "Не расейскаму ханству. Дэмакратыя".

Пачаўся пікет а 15-й гадзіне ля кінатэатра "Брыгантына". Удзельнікі раздавалі ўлёткі "Свабода", разгарнулі лозунгі: "Саша, калі будзем жыць лепей?", "Лукашэнку ў адстаўку!"

Недзе праз 40 хвілін да пікетоўцаў пад'ехаў нарад ППС. Сяржанты-міліцыянты патрабавалі скончыць пікет. Пасля адказу пікетоўцаў праз 20 хвілін на плошчу перад "Брыгантынай" наехала міліцэйскіх начальнікаў Першмайскага РАУС у чыне ад маёра да палкоўніка. Яны натуральна не ведалі, што рабіць, бо гэта быў першы пікет у Віцебску ў Першамайскім раёне.

Прастаяўшы да 17 гадзін, пікетоўцы разышліся. Праўда, перад гэтым усіх удзельнікаў сняў на відэа нейкі чалавек у цывільным.

---

Прадоўжыў працу міні-універсітэт грамадскіх ведаў імя Ангела Багдановіча. Слухачы з маленькіх вёсак на другіх занятках мелі магчымасць атрымаць веды па стварэнню і развіццю грамадскіх аб'яднанняў, планаванню іх працы. Былі праведзены практычныя заняткі па арганізацыі дзейнасці НДА.

А трэцця заняткі былі прысвечаны асновам прававых ведаў, на якіх велась размова пра асаблівасці новых кодэксаў: Уталоўнага, Працоўнага, Сямейнага, Угалоўна-працэсуальнага. Слухачы мелі магчымасць задаць пытанні па сваіх праблемах і атрымаць на іх грунтоўныя адказы.

**Падведзены вынікі дзейнасці Каардынацыйнай Рады па назіранню за выбарамі. Назіральнікі былі аднадушны ў тым, што выканаўчая ўлада сістэматычна парушала Выбарчы Кодэкс, рабіла ўціск на участковыя камісіі, злоўжывала правам пры падтрымцы кандыдата ад улады – Лектарава В. М. Зафіксаваны шматлікія парушэнні заканадаўства, а найбольш характэрнымі сталі:**

**1. Баграмянаўскі №26 – больш трэці галасоў сабрана пры датэрміновым галасаванні праз парушэнне тайны галасавання ў студэнтаў –заява накіравана ў ЦВК заказным лістом яшчэ 10 кастрычніка. Пад час галасавання 15.10 супрацоўнік РАУС перашкаджаў працы назіральніка, умешваўся ў працу камісіі. Пасля заявы назіральніка на участак з'явіўся пракурор з пагрозамі наконт таго, што на скрыні датэрміновага галасавання назіральнік паставіў свой подпіс.**

**2. Зарэчанскі участак № 29 – камісіяй складзены спіс для галасавання на даму ў які трапілі: памёршы ў мінулым годзе гр.Акімаў С.М. 1909 г.н, а таксама грамадзяне якія не заказвалі галасаванне на даму і адмовіліся галасаваць: Кашэнка В.С. і Кашэнка М.Д., а Яўсеява прагаласавала датэрмінова. Член камісіі Слепава І.В. выдавала два бюлетэня у адны рукі. У суботу намеснік дырэктара Гарадоцкай птушкафабрыкі Пронін Л.В. агітаваў на рабочых месцах галасаваць за кандыдата "улады" – Лектарава В.М.**

**3. Вакзальны ўчастак 30 – камісія арганізавала вынас бюлетэняў для галасавання на даму для больш 30 грамадзян, якія з такой просьбай не звярталіся.**

**4. Лясны ўчастак 63 (вайсковая частка) – больш паловы выбаршчыкаў – 159 з 310 - прагаласавала датэрмінова, але большасць з іх 15.10 была на месцы выбарчага участка.**

**Але і ва ўмовах ціску выканаўчай улады яўка выбаршчыкаў па Гарадку і г.п. Езярышча, дзе актыўна патрабавалі выканання Выбарчага кодэкса назіральнікі, склала толькі 55%. На гэтых участках падтрымка "кандыдата ўлады" Лектарава склала толькі 45% выбаршчыкаў.**

## З Гарадка

У Гарадку адбылося першае паседжанне аргкамітэта па стварэнню мясцовай жаночай арганізацыі "Сяброўкі"(умоўная назва). На сустрэчы абмеркаваны магчымыя крокі для актывізацыі жанчын ў раёне, а таксама першыя справы: сустрэчы з медыкамі, юрыстамі, мастацтваведамі; правядзенне акцыі "Свята – дзецям"; арганізацыя дзейнасці дзіцячага клуба "Калекцыянер". Ініцыятарам аргкамітэта выступіла Гарадоцкая арганізацыя БЖЛ.

**Кастрычніцкі нумар "Працоўнай Грамады" прысвечаны вынікам выбараў у Палату прадстаўнікоў, утрымлівае паведамленні з Лёзна, Шуміліна аб парушэннях выбарчага заканадаўства пры арганізацыі "вертыкаллю" выбараў у Палату №2. Чытачы маюць магчымасць пазнаёміцца з прапановамі Гарадоцкай Рады ТБМ па арганізацыі працы па падрыхтоўцы да 150-годдзя з дня напісання паэмы "Тарас на Парнасе". Як вядома, найбольш верагодны аўтар славутай паэмы – Канстанцін Вераніцын нарадзіўся ў в. Астраўляны Гарадоцкага раёна.**

*Падрыхтаваў Л. Гаравы*

# З Верхнядзвінска

ДАПАМОГА

З Галандыі ў Верхнядзвінск дастаўлена чарговая партыя гуманітарнага грузу, адрасаваная нашым землякам грамадскай дабрачыннай арганізацыяй з Галандыі "Кіндэрхульп". Напярэдадні зімы многім сем'ям верхнядзвінцаў, якія церпяць матэрыяльныя цяжкасці, дарэчы будуць адзенне, коўдры, бялізна і дзіцячыя рэчы з далёкай Галандыі.

***

На створаную ў Верхнядзвінску базу размеркавання гуманітарных грузаў у межах праграмы дабрачыннай дапамогі амерыканскага фонду "Каунтэрпарт" дастаўлена першая партыя з нямецкага горада Гамбурга. У складзе рэчаў – 240 інвалідных калясак, палова з якіх – дзіцячыя. Груз будзе размеркаваны па заяўках з усяго паўночна-заходняга рэгіёну Беларусі, але найперш будзе забяспечаны наш раён, дзе месціцца дзелавы партнёр "Каунтэрпарту" – Верхнядзвінскае раённае аддзяленне Фонду Міру (старшыня В.В.Кудлацкая).

СУСТРЭЧЫ

Агульнымі намаганнямі цэнтральнай раённай бібліятэкі і кінатэатра для вучняў сярэдніх школ г. Верхнядзвінска 4 кастрычніка быў арганізаваны прагляд відэафільма "Да хвалы Алтара" аб подзвігу расіцкіх ксяндзоў падчас Асвейскай трагедыі. Пасля дэманстрацыі фільма адбылася сустрэча з аўтарам сцэнара беларускай пісьменніцай І.Жарнасек і аўтарам кнігі "Росіцкія мучанікі" ксяндзом В. Пялінкам. Падчас мерапрыемства быў арганізаваны выступ музычныга гурта "Гармонія" з СШ №2 пад кіраўніцтвам Н.А.Пагаранскай. Удзельнікі сустрэчы адзначылі, што арганізатарамі было зроблена ўсё, каб сустрэча прайшла цікава і пакінула добрую памяць у прысутных дзяцей і падлеткаў. Адзначалася таксама, што нашмат большы плён прыносяць такія мерапрыемствы, калі на іх разам з дзецьмі прысутнічаюць і іх бацькі.

ТРАНСПАРТ

Абвастраецца сітуацыя з аўтобуснымі пасажырскімі перавозкамі. 4 кастрычніка аўтапарк паставіў дзесяткі пасажыраў перад праблемай, як ім вярнуцца з Верхнядзвінска ў родныя вёскі. Для адпраўкі людзей на Савейкаўскі маршрут спатрэбілася ўмяшальніцтва райвыканкама. Прычына збоеў – у баках з гаручкай, якія ўсё часцей і часцей бываюць пустымі. Улады раяць службам аўтапарка не прывозіць ранішнімі рэйсамі пасажыраў у райцэнтр, калі няма гарантыі, што вечарам іх завязуць назад, у родныя вёскі.

ТУРЫЗМ

Напоўніцу выкарысталі турысцкія магчымасці бабінага лета аматары турызму Боркавіцкай і Сенькаўскай школ. 8 – 10 кастрычніка школьнікі з Боркавіч зладзілі двухдзённае падарожжа на радзіму нашага славутага земляка І.Д.Чэрскага ў вёску Свольна, а сенькаўцы прайшліся маршрутам, поўным прыгод, па глухіх мясцінах басейна Сар'янкі і Асуніцы, штурмавалі ўскраек здзічэлай Пушчы.

Начлегі ж пад свальнянскімі дубамі і над вірлівай Сар'янкай былі аднолькава прыемнымі і, як заўжды, крыху таямнічымі.

ВЕРХНЯДЗЬВІНСКІЯ ГАНДЛЯРЫ РАСПАЧАЛІ СТРАЙК

Да страйку гандляроў з рэчавых рынкаў Полацку і Наваполацку, які быў распачаты на мінулым тыдні, далучыліся Верхнядзьвінскія прадпрымальнікі. Асноўным, што прымусіла мясцовых камэрсантаў пайсьці на падобную форму пратэсту, стала ўвядзеньне новага мытнага збору за прадукцыю трэціх краінаў, якія ўвозяцца ў Беларусь з Расеі. У Верхнядзьвінску на рынку ў асноўным рэалізуецца тавар турэцкай ці кітайскай вытворчасьці. Мытнае новаўвядзеньне сур'ёзна падрывае бізнес дробных гандляроў, бо звыклы тавар, але ўжо амаль у паўтары разы даражэйшую, у зьбяднелым райцэнтры мала хто наважыцца набываць. З гэтай нагоды ў раённых уладаў узьнікла сур'ёзная заклапочанасьць, бо з-за распачатага страйку бюджэт не далічыцца значных паступленьняў.

# З Оршы

Па зьвестках Каардынатара Камітэта па кантролю за выбарамі па Аршанскім рэгіёне Юрася Нагорнага выбары ў Воршы не адбыліся. Па стане на 18 гадзінаў па горадзе прагаласавала каля 40 % выбаршчыкаў. Па прадстаўленых акружной камісіяй выніках галасаваньня 50.18 % занесеных у сьпісы прыйшлі да выбарчых участкаў. Такім чынам атрымліваецца, што паміж 18-ай і 20-ай гадзінамі прагаласавала больш за 10 % выбаршчыкаў, што выглядае нерэальным. Пад націскам выканаўчай улады шэраг участковых камісіяў пачалі абыход са скрынямі жыхароў Воршы, дацягнуўшы такім чынам планку выбаршчыкаў да неабходнай.

**14-15 кастрычніка ў Воршы паралельна з выбарамі ў "палатку" праходзілі выбары ў Ініцыятыўную групу па стварэньню студэнцкага самакіраваньня. Гэтыя выбары былі часткаю сэмінара па студэнцкаму**

*(Заканчэнне на 4-й стар.)*

# Ад ЦМІ «Контур»

У Віцебску 21 кастрычніка 2000 г. БНФ "Адраджэньне" супольна з "Маладым Фронтам" і Аб'яднанай Грамадзянскай Партыяй правёў пікет, прысьвечаны вынікам першага тура выбараў у Нацыянальны Сход Рэспублікі Беларусь. Акцыя распачалася а 15.00 у цэнтры горада ля помніка Эўдакіі Лось і сабрала каля 30 удзельнікаў, пераважна моладзь. Падчас пікету выкарыстоўваліся нетрадыцыйныя для падобных імпрэзаў метады: плакаты пісаліся адразу на акцыі, удзельнікі рухаліся па цэнтральнай вуліцы пад бел-чырвона-белымі сьцягамі і распаўсюджвалі незалежную прэсу. Сябры "Маладога Фронту" арганізавалі сьпевы беларускіх песьняў і скандаваньне папулярных лёзунгаў кшталту "Радзіма! Свабода! Далоў Луку – урода!"

Пікетоўцы трымалі плакаты наступнага зьместу: "Жыве Беларусь", "Не расейскай экспансіі", "Свабоду палітвязьням", "Вынікі выбараў не сапраўдныя". Ураджвала слабая актыўнасьць праваахоўных ворганаў. Ахоўнікі парадку заявіліся на акцыю амаль праз гадзіну пасьля яе пачатку і затрымалі сямёх найбольш актыўных удзельнікаў: Сяргея Васенку, Сяргея Гродзя, Юрыя Мельнікава, Уладзіміра Патоцкага, Сяргея Шапіру і Андрэя Саўчанку. Дзякуючы актыўнай працы арганізатараў, акцыя не спынілася і пасьля затрыманьня часткі удзельнікаў. Застаўшыяся разгарнулі загадзя падрыхтаваныя сьцягі і плякаты. На гэты раз міліцыянты прыехалі хутчэй. Былі затрыманы Сяргей Аксімовіч, Яніс Чучман, Марат Волкаў і Алексенка Аляксей.

Затрыманыя былі дастаўленыя ў Чыгуначны РАУС г. Віцебска, дзе на іх склалі пратаколы з абвінавачваньнем ў арганізацыі несанкцыянаванага пікету (артыкул 167 часка 1). Пасьля чаго усе ўдзельнікі былі адпушчаныя на свабоду. Для Сяргея Васенкі, Сяргея Гродзя, Юрыя Мельнікава, Уладзіміра Патоцкага, Сяргея Шапіры і Яніса Чачмана гэта няпершае затрыманьньне ў межах акцыі Байкот-2000. Падчас пікету првапарушэньні фіксаваліся прадстаўнікамі віцебскіх праваахоўчых арганізацыяў "Вясной-96" і Цэнтрам моладзевых ініцыятываў "Контур".

## З Оршы

*(Заканчэнне. Пачатак на 3-й стар.)*

**самакіраваньню, які праводзіла РМГА "Задзіночаньне беларускіх студэнтаў" сумесна з галяндзкімі студэнцкімі арганізацыямі. У 10 рэгіёнах Беларусі згодна прэкту, што ажыцьцяўляе ЗБС, пройдуць такія ж сэмінары. Мэтаю іх зьяўляецца стварэньне працоўных групаў з зацікаўленых студэнтаў, якія стануць арганізатарамі самакіраваньня ў сваіх навучальных установах.**

**9 актывістаў моладзевых НДА Воршы ўвайшлі ў склад Ініцыятыўнай групы па стварэньню студэнцкага самакіраваньня ў горадзе. 28 кастрычніка адбудзецца абмеркаваньне пляна дзейнасьці гэтае групы, які дазволіць вызначыць тэрміны і аб'ём працы, неабходнай для дасягненьня мэты праграмы.**

14 кастрычніка ў Воршы адбыўся канцэрт знакамітага беларускага барда Віктара Шалкевіча.Усе прысутныя ў зале Гарадскога дома культуры былі ўдзячны выканаўцу за цудоўныя песні. Спадар Віктар адказваў на пытанні слухачоў, спяваў старыя і новыя песні, пераклады іх на іншыя мовы, распавядаў цікавыя показкі і гісторыі з свайго жыцця. На канцэрце было больш за 100 чалавек . Сярод прысутных былі прадстаўнікі ЗБС, моладзевай арганізацыі "Звяз", Малады фронт, Культурна асветніцкага цэнтра імя Караткевіча. Арганізаваў гэтае выступленне Аршанскі фанклюб "АРФА" (кіраўнік Юрась Санковіч).

Сам Шалкевіч адзначыў, што гэта самы доўгі канцэрт, які ён даваў у савім жыцці.

*Інфармацыйная служба ЦПГІ "Крывіч".*

## ВІЦЕБСКАЕ ТБМ КАЖА ПРА ДЫСКРЫМІНАЦЫЮ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

У Віцебску 5 лістапада прайшла канфэрэнцыя, у якой прынялі ўдзел пісьменьнікі, выкладчыкі ВНУ, настаўнікі беларускай мовы, загадчыкі і выхавацелі дашкольных установаў. Канфэрэнцыя была прысьвечаная сфэры ўжываньня беларускай мовы. Яе арганізавалі мясцовае аддзяленьне Таварыства беларускай мовы і гарадзкі аддзел адукацыі. Праўда, ні прадстаўнікі гарадзкіх уладаў, ні дырэктары агульнаадукацыйных школаў на мерапрыемстве не прысутнічалі. Падчас канфэрэнцыі зазначалася, што ў горадзе адбываецца адкрытая дыскрымінацыя беларускай мовы, і наяўнасць у Віцебску беларускай гімназіі і беларускае клясы ў адной зь сярэдніх школаў не дазваляе рабіць выснову аб адваротным.

### Тэрмінова ў нумар!

Віцебскае аддзяленне «Фонду імя Льва Сапегі» адкрыла свой сайт у Інтэрнэце. Цяпер з самай гарачай інфармацыяй абласнога рэсурсовага цэнтра NGO"s можна пазнаёміцца па адрасу: http://www.sapega.vitebsk.net. Тут таксама інфармацыя пра гісторыю стварэння грамадскай арганізацыі, мэты і задачы яе дзейнасці. Госці сайта могуць пакінуць свае заўвагі і прапановы ў гасцявой кнізе.

## Увага, конкурс!

### ІДЕЕ Фонд "Інстытут на карысьць дэмакратыі ва Ўсходняй Эўропе"

абвяшчае Конкурс малых грантаў "Падтрымка грамадзкіх ініцыятываў у Віцебскай вобласьці".

*Мэта конкурса*: Падтрымка і разьвіцьцё незалежных няўрадавых арганізацый і грамадзкіх ініцыятываў у Віцебскай вобласьці .

***Умовы конкурса***:

- Заяўкі прымаюцца ад зарэгістраваных і незарэгістраваных аб"яднаньняў .

У конкурсе могуць удзельнічаць праекты , дзейнасьць якіх накіраваная на:

- захаваньне нацыянальнай культурнай , гістарычнай і прыроднай спадчыны;
- стварэньне новых НДА і пашырэньне валанцёрскага руху;
- падтрымку маладзёвых ініцыятываў;
- выдавецкія ініцыятывы;
- распаўсюджаньне дэмакратычных каштоўнасьцяў і абарону правоў чалавека;

Тэрмін дзеяньня праектаў – да 20 жніўня 2001 года.

Фонд не разглядае праекты :

- да якіх не прыкладзеная анкета,
- бюджэт якіх перавышае 400 даляраў,
- палітычныя, рэлігійныя, спартовыя, навуковыя.

***Заяўкі прымаюцца:***

Першы борд (разгляд) да 30.10.2000 (журы 5.11.00)
Другі борд да 30.11.2000 (журы 10 . 12.00)
Трэці борд да 30.01.01. (журы 11.02.00)
Чацьверты борд да 30.03.01 (журы 11.04.01)

Заяўка на грант павінна уключаць разьдзелы :

1.Інфармацыйная характарыстыка праекта :
1.1.Назва конкурсу
1.2.Назва праекту
1.3.Назва арганізацыі
1.4.Кіраўнік праекта
1.5.Адрас і тэлефон
1.6.Тэрмін дзеяньня праекта

Дадатковая інфармацыя пра арганізацыю падаецца ў анкеце , што прыкладаецца да заяўкі.

2.Зьмест праекту (кароткая анатацыя, рэзюмэ)

3. Абгрунтаваньне праекту ( апісаньне канкрэтнай праблемы , якую Вы зьбіраецеся разьвязаць)

4. Пасьлядоўнае апісаньне крокаў па рэалізацыі праекту, або графік мерапрыемстваў.

5.Чаканыя вынікі – якая карысьць будзе ад Вашага праекта для грамадзтва і як Вы бачыце працяг праекту.

6. Бюджэт (падрабязнае апісаньне і абгрунтаваньне кожнай пазыцыі)

ЗАЎВАГІ:

- выдаткі на заробак не павінны перавышаць 10 % ад каштарысу заяўкі;
- выдаткі на набыцьцё тэхнікі не павінны перавышаць 30% каштарысу;

Перавага аддаецца праектам :

- сумесным;
- зь вёсак і мястэчкаў;
- арганізацыяў , якія ня мелі досьведу працы з донарамі.

*Прыём заявак будзе ажыцьцяўляцца па адрасу: г. Віцебск, пр-т Чарняхоўскага, 12 –17, Віцебскае адзьдзяленьне Фонду імя Л.Сапегі, 210015.*

*Тэл./факс (0212) 22 49 25.*

Рэдакцыйная калегія: Б. Алінін, Х.С. Жэляпаў
Камп'ютэрны дызайн і вёрстка: Б. Алінін
Распаўсюджваецца бясплатна
Адрас рэдакцыі: 210015 Віцебск, пр-т Чарняхоўскага, 12-17, тэл/факс: (0212) 22-49-25
E-mail: vbfsap@vitebsk.unibel.by
Выдавец: Віцебскае аддзяленне ГА «Фонд імя Л. Сапегі»
Наклад 160 паасобнікаў
Для унутранага карыстання